# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (661) ГОД XIII 27 КАСТРЫЧНІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


ПАРТЫЯ і Я

## ШТО ТАКОЕ ІДЭЙНАСЦЬ

— Ідэйнасць для мяне, — таворыць таварыш Аляксандр Садоўскі з Тапалянаў, — неразлучна звязана са звычайнай чалавечай сумленнасцю. Дам вам прыклад. Калісь было ў нашай партарганізацыі 17 чалавек. Большасць з гэтых людзей нельга аднак было б назваць ідэйнымі. Уступілі з розных прычын: той хацеў атрымаць ільготы ў абавязковых дастаўках, іншы стараўся атрымаць пазыку і г.д. Час паказаў сапраўдныя матывы іх паводзін. Адышлі яны ад нас, пераканаўшыся, што партыя існуе не па тое, каб даваць сваім членам ільготы, а каб даваць ім магчымасць актыўнага палітычнага дзеяння, грамадскага заангажавання.

Так пачалася нашая размова з таварышам Аляксандрам Садоўскім — селянінам з вёскі Тапаляны ў Беластоцкім павеце. Садоўскі апрача таго, што арэ ды абсявае зямлю, ад шэрагу гадоў актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю. Ён радны павятовай рады нарадовай у Фальварках Тыльвіцкіх, член праўлення сельскагаспадарчага гуртка ў Тапалянах, член камітэта дастаўцаў малака і г.д. Вядома, грамадская дзейнасць у такім выпадку займае многа сіл ды часу. Але, нягледзячы на гэта, Аляксандр Садоўскі не занядбоўвае і сваёй гаспадаркі. Яна адна з лепшых у вёсцы.

Прашу таварыша Садоўскага, каб расказаў аб сваім жыцці, аб сваёй дарозе да партыі і рангу грамадскага дзеяча. Таварыш Садоўскі расказвае.

Нарадзіўся ён у Тапалянах. Калі меў 5 год, у 1913 годзе памёр бацька. Пачалося цяжкае жыццё сіраты. Калі ўспыхнула I сусветная вайна, выехаў разам з сям'ёю на Украіну, у Харкаў. Там навучыўся чытаць ды пісаць па-

(Працяг на стар. 5).



Восенню.

Фота: Ст. Панкоўскі

Ужо мы прызвычаіліся да таго, што ў аколіцы, у нашай вёсцы ці мястэчку, нешта будуецца, нешта змяняецца. Здаецца, што гэтак, а не інакш і павінна быць. Мы ўжо прызвычаіліся да перамен на лепшае. І толькі тады канкрэтна бачым прагрэс нашага часу, калі ўспомнім мінулае, калі параўнаем сённяшняе жыццё да перадваенных часоў за панскай Польшчы. Старэйшае пакаленне памятае той перыяд, а малодшае зусім не ведае. Ведае столькі, колькі пачуе ад сваіх бацькоў, старэйшых людзей, колькі даведаецца з кніжкі або фільму. А калі не параўнаеш сённяшняга жыцця да мінулага, належна не ацэніш аграмадных перамен за гады нашай народнай улады.

Пакажам гэта на некаторых фактах з грамады Арэшкава ў Гайнаўскім павеце, якая распаложана на ўскраіне Белавежскай пушчы. Якасць зямлі тут нізкая, у асноўным пятая і шостая катэгорыя. Таму тут і ўраджаі збожжа былі дрэнныя. Сяляне на сваіх палях збіралі па 6—7 цэнтнераў жыта з аднаго гектара. У гэтай аколіцы шмат сенажацяў, але сена радзіла слабое, таму што было тут багно і крэкаць. У гады санацыйнай Польшчы многа было тут людзей, якія не ўмелі нават падпісацца. У шасці вёсках сённяшняй грамады Арэшкава было дзве чатырохкласныя школы. Але не ўсе дзеці маглі вучыцца ў гэтых школах. Была прынята многімі такая думка, што да плуга або да фізічнай працы ў лесе патрэбная толькі сіла, што і без ведаў

## ГРАМАДА АРЭШКАВА

можна гэтыя работы выконваць. Рэдкасцю было, каб хто-небудзь канчаў поўную паўшэхную школу, гэта значыць, 7 класаў. А ўжо пра сярэднія школы сялянскае дзіця і марыць не магло. Ды сярэдніх школ у гэтай аколіцы і не было, уключна з Гайнаўкай. Мала ў вёсках хто будаваўся, ніхто не купляў мінеральных угнаенняў, бо цэны на іх былі недаступныя. Не было ў вёсцы радыёпрыёмнікаў, матацыклаў, электрычнасці, сеўнікаў, трактароў, крамы. Не было таксама і адплыву людзей з вёскі, не было працы ў гарадах. Частка людзей працавала толькі ў лесе. Замнога было людзей у вёсцы, замала было хлеба, абутку і г.д.

А як сёння жывецца ў грамадзе Арэшкава? Хто не быў у Арэшкаве больш 15-ці гадоў, той не пазнае гэтай вёскі. Пабудавана тут прыгожая васьмікласная школа. У грамадзе Арэшкава ёсць яшчэ адна васьмікласная школа ў Вітаве, а таксама чатырохкласныя школы ў Тапіле і ў Доўгім Бродзе. У Арэшкаве красуецца на ўсю вёску дом культуры з прыгожай залай кіно, клуба-кавярняй, бібліятэкай і рамізай. У кожнай вёсцы грамады пабудаваны крамы, а таксама злеўні малака. Праведзена тут на 550 га меліярацыя. Сельскагаспадарчы гурток мае дзевяць трактароў, сем снапавязалак, сем капалак бульбы і многа іншых сельскагаспадарчых машын. Сёння гаспадар ужо не хоча сеяць уручную, не хоча касіць сена касою, капаць бульбу рукамі, жаць сярпом, малаціць цэпам. Усе гэтыя працы змеханізаваныя. Слабая зямля, дзякуючы выкарыстоўванню агратэхнічных ведаў, падвоіла свой ураджай. Гэтая ж самая зямля цяпер дае 18 цэнтнераў жыта з аднаго гектара, 19 цэнтнераў пшаніцы, 220 цэнтнераў бульбы. Уся моладзь, як правіла, кончыла 7 класаў школы, а цяпер 8 класаў. 19 чалавек з грамады Арэшкава закончыла вышэйшыя школы. Двое з іх ужо з'яўляюцца дактарамі навук. 62 асобы атрымала сярэднюю адукацыю, а 29 чалавек яшчэ вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых школах. За гады народнай улады пабудавана прыпынкі ПКП у Арэшкаве і Вітаве. Гэта значна аблегчыла жыццё людзей. Яны па-суседску маюць цягнік, якім едуць у шырокі свет. Не ўспаміналі мы аб электрыфікацыі і радыёфікацыі. А яны ж найбольш садзейнічалі прагрэсу вёскі.

(мс)

Дружба не знае граніц




**Ахад Ібрагімаў** пасля 28 год з далёкага Узбекістана зноў прыехаў у вёску Янова ў Сакольскім павеце. Прыехаў адведаць свайго сябра **Уладзіміра Ільяшука,** які ў 1941 годзе выратаваў Ахаду Ібрагімаву жыццё. Уладзіміра Ільяшука не застаў ужо ўжывых.

*

Быў год 1939. Ахад Ібрагімаў служыў у арміі ў горадзе Ваўкавыску на Беларусі ў 192-й кавалерыйскай дывізіі і 490 стралковым палку ў сапёрным батальёне, будучы старшыной.

У 1941 годзе выехалі салдаты на Беласток. Памятае Ахад Ібрагімаў, як праязджалі вёску Трасцянку, дарогу на Бельск, памятае ўскраіну Беластока, дзе затрымаліся. У апошні вечар перад 22 чэрвеня салдаты глядзелі фільм «Чапаеў». Пад уражаннем вялікага героя ляглі спаць. Толькі заснулі, як разбудзіла іх бамбёжка.

Расказвае наш госць аб першых хвілінах вайны. Сцэны як бы жыўцом прыпамінаюць «Жывых і мёртвых» Сіманава. Атрымалі загад адступаць.

Па шашы біў вораг, самалёты лёталі нізка і стралялі, было шмат ахвяр. Побач шашы быў лес. Людзі кінуліся туды. Самалёты стралялі па лесе. Асталіся адзінкі. Блукалі па лесе.

Дзесяць дзён прахадзіў так і наш расказчык Ахад Ібрагімаў. Раз папрасіў у нейкай хаце есці. Потым смела ўжо пайшоў на вёску, якую ўбачыў перад сабой. Зайшоў на панадворак першай хаты. Спаткаў гаспадара.

— Здраствуйце, — сказаў.

— Здраствуйце, — адказалі яму.

— Я хачу есці.

— Прашу, заходзьце, — сказаў гаспадар. — Я вам памагу.

— Я ўрэшце добра пад'еў — працягвае свой расказ Ахад Ібрагімаў. — Ільяшук у тым часе разгледзеўся вакол і ў клуні зрабіў мне пасцель. Суседзі нічога не ведалі. Так прайшло дзесяць дзён. Потым я перабраўся жыць у хату. Жыў у Валодзі Ільяшука 7 месяцаў. Пасля 2 месяцаў маёй пабыўкі ў Янове Валодзя дагаварыўся з солтысам, сабралі ад людзей пасведчанні, што я мясцовы і вырабілі мне новы дакумент на мясцовага жыхара Васіля... Прозвішча забыў. Жыхары вёскі Янава звалі мяне дзядзем Васем.

З часам аднак трэба было нешта рабіць. Мяне па маёй згодзе адправілі ў Германію. Разважылі мы супольна, што так лепш будзе дабрацца да сваіх. Трапіў я ў Кёнігсберг у рабочы пункт. Узяў мяне адзін немец, які пры горадзе меў агарод. Пасля двух тыдняў быў адзін такі вечар, калі мой гаспадар пасля вячэры сказаў нешта жонцы і яна пакорна выйшла, а мы хвіліну яшчэ сядзелі, гледзячы адзін на другога. І раптам... найчысцейшай рускай мовай мой гаспадар-немец прамовіў да мяне. Нешта ў гэтым сэнсе: «Вось і ўдаўся мне друг». Аказалася, ён — былы тэльманавец і да вайны дзесяць год сядзеў у турме за прагрэсіўную палітычную дзейнасць.

Ад гэтага моманту інакш ужо выглядалі нашы суадносіны. Мой гаспадар завёў мяне ў горад, купіў касцюм і ад гэтага часу разам мы так і хадзілі. Ён мне паказваў усё ў горадзе. Пасля двух месяцаў запытаў, ці не хачу да сваіх. Вось пытанне! А як жа, хачу, сказаў я.

Прышоў час, калі гаспадар забраў мяне і завёў да іншага немца, свайго сябра — машыніста, які абслугоўваў транспарт для войска. Той даў мне дакументы і забраў з сабой на паравоз як качагара. На кантрольных пунктах хаваў мяне ў вугаль. Па нейкім часе аддаў другому машыністу, той у сваю чаргу іншаму і гэтак далей. Тры з палавінай месяцы я ездзіў гэтак і пераходзіў з рук у рукі, пакуль не папаў пад Маскву. Усе, хто за гэты час мною апекаваўся і мяне перахоўваў, добра гаварылі па-руску. Аднойчы сказалі мне: наша місія закончана, за пару дзён тут будзе бой. Высадзім

(Працяг на стар. 5)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ДАГАВОР МІЖ СССР І ЧССР

У Празе, 16 кастрычніка г.г., прэм'еры А. Касыгін і О. Чэрнік падпісалі Дагавор аб часовым прабыванні савецкіх войск на тэрыторыі ЧССР. 18 кастрычніка абодва бакі ратыфікавалі дагавор.

З пункту гледжання на абарону інтарэсаў сацыялістычных краін і іх рэвалюцыйных дасягненняў, — сцвердзіў О. Чэрнік, звяртаючыся да дэпутатаў чэхаславацкага парламента, — урады абедзвюх краін дайшлі да вываду, што неабходна часовае прабыванне акрэсленай колькасці савецкіх войск на нашай тэрыторыі. Гэта патрэбна на тое, каб, згодна з першым артыкулам дагавору, гэтыя войскі ўмацоўвалі абарону дзяржаў сацыялістычнай садружнасці перад усё мацнейшымі рэваншысцкімі імкненнямі заходнегерманскіх ваенных сіл.

Непасрэдная абарона нашай заходняй граніцы, — сцвердзіў м. ін. прэм'ер Чэрнік, — незалежна ад часовай прысутнасці савецкіх войск, поўнасцю будзе знаходзіцца ў руках нашай арміі.

Прэм'ер Чэрнік сказаў, што Дагавор гэты заканчвае этап, калі адносіны між ЧССР і пяццю сацыялістычнымі дзяржавамі былі крайне няяснымі, неўпарадкаванымі і ў выніку жнівеньскіх здарэнняў вельмі складанымі.

Чэрнік сцвердзіў, што агульная колькасць войск, якія будуць часова размешчаны на тэрыторыі ЧССР, дакладна акрэслена. Большасць падраздзяленняў Савецкай Арміі, прабываючых зараз на тэрыторыі ЧССР, а таксама ўсе ваенныя часці ПНР, ВНР, ГДР і НРБ будуць выведзены этапамі на працягу двух месяцаў ад часу ратыфікацыі дагавору. Усе кошты, звязаныя з утрыманнем савецкіх войск у ЧССР, пакрывае Савецкі Саюз.

### ШАНЦЫ НІКСАНА

Даследванні грамадскай думкі ЗША паказваюць на ўзрост шанцаў Ніксана ў прэзідэнцкіх выбарах. Кандыдат ад дэмакратычнай партыі, зараз віцэпрэзідэнт Хэмфры траціць зямлю пад нагамі. Каб ратаваць свайго сябра, у апошнім часе забраў голас прэзідэнт Джонсан. Паявіліся нават пагалоскі, што ў бліжэйшым часе прэзідэнт Джонсан спыніць безагаворачна бамбардзіроўкі ДРВ. Цяжка сказаць, ці гэта праўда, і колькі ў тым здаровага меркавання, а колькі перадвыбарчай тактыкі. Дзве справы застаюцца пэўнымі: спыненне бамбардзіровак на многа пабольшыла б шанцы Хэмфры як прадстаўніка дэмакратаў і раней ці пазней ЗША і так мусяць спыніць гэтую брудную вайну.

### 3,5 МІЛЬЯРДА ЛЮДЗЕЙ

Насельніцтва зямнога шара павялічылася ад паловы 1966 г. да паловы мінулага года на 65 мільёнаў і зараз налічвае 3,42 мільярда жыхароў. Калі ўтрымаецца дагэтуляшні прырост (1,9% у год), колькасць насельніцтва будзе ў два разы большая да 2006 г.

А. К.

## БССР

### ЛЕНІНА

Рыхтуючыся дастойна адзначыць слаўную дату — 25-годдзе народнага Войска Польскага, беларускія людзі ў рэкордна кароткі тэрмін — за тры месяцы — пабудавалі ля сяла Леніна мемарыяльны Музей-помнік савецка-польскай баявой садружнасці.

15 кастрычніка ў Леніна адбыліся вялікія ўрачыстасці, прысвечаныя адкрыццю Музея-помніка. На помніку надпісы на польскай і беларускай мовах: **«Польскім воінам Першай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, якія загінулі ў баях з нямецкім фашызмам за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы, вечная слава».**

Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларусі, польская дэлегацыя на чале з Мечыславам Мочарам, дэлегацыя міністэрства абароны Саюза ССР. Прагучэлі гімны Польшчы, Саюза ССР і Беларускай ССР.

Сакратар ЦК ПАРП Мечыслаў Мочар сказаў м. ін.:

«Бітве на беларускай зямлі мы адводзім асаблівае месца ў пантэоне славы і доблесці польскай зброі, у патрыятычнай гордасці польскага народа.

Бітва пад Леніна — гэта велічны і красамоўны сімвал і ў той жа час рэальны факт, які меў для Польшчы вельмі важныя гістарычныя вынікі. Менавіта тут, пасля вераснёўскага паражэння ў 1939 годзе, пасля страты незалежнасці ажыццявілася мара польскіх народных мас аб адраджэнні ўласных, польскіх і ў той жа час народных рэгулярных узброеных сіл, мара аб польскім мундзіры і сцягу, аб зброі, аб расплаце з гітлераўскімі злачынцамі, аб вызваленчым подзвігу».

Ва ўрачыстай абстаноўцы Мечыслаў Мочар прымацаваў **«Крыж Грунвальда» II класа** да сцяга Ленінскага сельскага савета, прызнаны Дзяржаўнай Радай Польшчы.

«Усяму свету вядома, якія вялікія страты і разбурэнні, што прынесла Савецкаму Саюзу і Народнай Польшчы вайна, — сказаў м. ін. П. Машэраў, першы сакратар ЦК КП Беларусі. — Мы ніколі не забудзем тых, хто не вярнуўся з поля бою, навечна захаваем у сваіх сэрцах бессмяротныя дзеянні і подзвігі загінуўшых герояў. І сёння, адкрываючы Музей-помнік баявой садружнасці Савецкай Арміі і народнага Войска Польскага працоўныя нашай Радзімы яшчэ і яшчэ раз выказваюць сваю бязмежную павагу і сваю ўдзячнасць мужным барацьбітам з фашызмам, лепшым сынам савецкага і польскага народаў, якія аддалі жыццё за гонар, свабоду і незалежнасць нашых краін... Усе мы, таварышы, з глыбокім пачуццём задавальнення і ўдзячнасці сустрэлі ўзнагароджанне ўрадам Польскай Народнай Рэспублікі пасёлка Леніна ордэнам «Крыж Грунвальда» II класа».

Вёска Трыгубава пад Леніна, на ўскраіне якой магілы польскіх воінаў, перайменавана ў гонар Першай польскай дывізіі — у **Касцюшкава.** (ся)

## ПОЛЬШЧА

### КАНФЕРЭНЦЫІ

Ваяводскія перадз'ездаўскія канферэнцыі партыі сталі шырокай платформай для ўсебаковай прынцыпіяльнай дыскусіі над асноўнымі праблемамі нашай краіны. На канферэнцыях з прамовамі выступілі члены кіраўніцтва партыі: Зэнан Клішка — у Гданьску, Мар'ян Спыхальскі — у Познані, Францішак Ванёлка — у Быдгашчы, Пётр Ярашэвіч — у Жэшове, Мечыслаў Мочар — у Кельцах, Артур Старэвіч — у Зялёнай Гуры, Юзэф Тэйхма — у Ольштыне і Яўгеніюш Шыр — у Аполі.

### ПРАБЛЕМЫ НАВУКІ

15 кастрычніка адбылася ў Цэнтральным Камітэце партыі сустрэча кіраўніцтва партыі з працаўнікамі навукі, прысвечаная асноўным праблемам навукі і вышэйшай адукацыі. Падставай дыскусіі быў даклад кіраўніка аддзела навукі і асветы ЦК партыі Анджэя Вэрбляна. Прааналізаваў ён перад усім падрабязна сітуацыю ў грамадскіх навуках, падкрэсліваючы вялікую шкоднасць, якую гэтым навукам прынёс рэвізіянізм і іншыя формы рэакцыйнай ідэалогіі. Прамоўца акрэсліў асноўныя праблемы, якія стаяць зараз перад грамадскімі навукамі: аналіз праблем, звязаных з дыктатурай пралетарыяту, сацыялістычнай дэмакратыяй і функцыяніраваннем сацыялістычнай гаспадаркі, паслядоўная барацьба з рэвізіянізмам пры аналізе гэтых праблем, шырэйшая апрацоўка карціны будучага сацыялістычнага грамадства.

На заканчэнне дыскусіі голас меў І сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Уладзіслаў Гамулка. Падкрэсліў ён, што паколькі ў дакладных навуках кіраўніцтва партыі ніколі не ўмешвалася ў працэсы навуковых даследванняў, пастолькі грамадскія навукі, якіх нельга аддзяліць ад ідэалогіі і палітыкі, павінны быць прадметам максімальнага зацікаўлення партыі, а ў выпадку патрэбы неабходным з'яўляецца ўмяшанне партыйных устаноў. Вынікае гэта з заданняў партыі, яе кіруючай ролі. Цяжка ўявіць, — сцвердзіў У. Гамулка, — каб чалавек, які прадстаўляе адсталыя, антысацыялістычныя погляды, мог стварыць у грамадскіх навуках вартасныя прагрэсіўныя працы. Прамоўца заклікаў прадстаўнікоў грамадскіх навук да правядзення глыбокага навуковага аналізу сучаснага рэвізіянізму.

### ПРАБЛЕМЫ БУДАЎНІЦТВА

Асноўныя праблемы інвестыцый і будаўніцтва — у святле тэзісаў на V з'езд партыі прааналізавалі ўдзельнікі краёвай нарады актыву будаўніцтва, якая адбылася 17 кастрычніка ў Цэнтральным Камітэце партыі. Прынялі ў ёй удзел прадстаўнікі будаўнічых аб'яднанняў і прадпрыемстваў, навукова-даследчых інстытутаў, праектных бюро, прадстаўнікі адміністрацыі і партыйных арганізацый. У нарадзе прысутнічалі члены кіраўніцтва партыі У. Гамулка, Ю. Цыранкевіч, С. Ендрыхоўскі і Э. Шыр. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПАРТЫЯ — АВАНГАРД НАРОДА

За час між IV і V з'ездамі Польскай аб'яднанай рабочай партыі партыйная арганізацыя Беластоцкага ваяводства павялічылася на 17 тысяч членаў і зараз налічвае 55600 членаў. Дух партыі, рука партыі і думка партыі заўсёды адчуваліся ва ўсім тым, што найважнейшае зроблена на нашай зямлі. Гаварылі аб гэтым дэлегаты на перадз'ездаўскую партыйную канферэнцыю, якая 18 і 19 кастрычніка г.г. адбылася ў Беластоку. У канферэнцыі прыняло ўдзел звыш 270 дэлегатаў і запрошаных гасцей. Цэнтральныя партыйныя ўлады на Беластоцкай канферэнцыі прадстаўлялі: член Палітбюро і сакратар ЦК ПАРП тав. Рышард Стшэлецкі і член ЦК ПАРП, член Рады Дзяржавы і пасол Беласточчыны Уладзіслаў Віха.

Канферэнцыю адкрыў І сакратар Ваяводскага камітэта ў Беластоку, член ЦК ПАРП і пасол Аркадзь Лашэвіч. «Хочам аддаць нашай партыі, — гаварыў ён, — усё, што маем у сабе найлепшага: ахвярнасць і энтузіязм у ажыццяўленні задач, якія вызначае партыя, вернасць і прывязанасць да ідэй марксізма-ленінізма, рашучасць у барацьбе за абарону лініі партыі і яе кіраўніцтва на чале з тав. Веславам».

Тав. А. Лашэвіч ад імя экзекутывы Ваяводскага камітэта выступіў таксама з абшырным дакладам «Аб тэзісах на З'езд і выніках даз'ездаўскай дыскусіі ў Беластоцкім ваяводстве». У дакладзе гэтым І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП грунтоўна абмеркаваў усе пераўтварэнні ў палітычным і гаспадарчым жыцці Беласточчыны, якія здзейсніліся на працягу чатырох апошніх год. Найперш ён высока ацаніў стойкасць партыйных і беспартыйных грамадзян у час бурлівых сёлеташніх здарэнняў. Падтрымка палітыкі партыі сярод грамадства Беласточчыны найбольш відавочна праявілася ў масавых прадукцыйных абавязацельствах у гонар V з'езда. Іх вартасць ацэньваюць на суму 530 мільёнаў злотых. Затым дакладчык разгледзіў найважнейшыя праблемы сельскай гаспадаркі. Тут варта адзначыць, што між IV і V з'ездамі ўраджай збожжа павялічыўся ў параўнанні да папярэдняга чатырохгадовага перыяду на 3,4 цэнт. з га, бульбы — на 13 цэнт., а цукровых буракоў — на 48 цэнт. Асабліва карысныя змены можна было наглядаць у ПГР-ах. Пасля дакладчык гаварыў аб праблемах капіталаўкладанняў і патрэбах прамысловага будаўніцтва, аб развіцці культуры, асветы і школьніцтва. Тут варта прыпомніць, што між з'ездамі Беласток атрымаў аж 2 новыя вышэйшыя школы.

Пасля даклада разгарнулася цікавая і змястоўная дыскусія. Між іншым выступіў тав. Рышард Стшэлецкі, які гаварыў аб асновах палітыкі партыі.

Дэлегаты прынялі пастанову аб галоўных напрамках дзейнасці ваяводскай партыйнай арганізацыі і выбралі 43 дэлегаты, якія будуць прадстаўляць Беласточчыну на V з'ездзе ПАРП.




**NIEDZIELA, 27 październik**

6.55 Kronika olimpijska. 10.00 Program dnia. 10.05 TV Kurs Rolniczy: „Mięsne rasy bydła”. 10.40 „Przypominamy, radzimy”. 10.50 PKF. 11.00 „Ściśle tajne” — film TVP („Stawka większa niż życie”). 12.00 Dziennik. 12.10 „Od Krakowa jadę” — widowisko folklorystyczne. 12.50 „Przemiany”. 13.20 „Teatrzyk dla Przedszkolaków”: „Mały Tupi”. 14.00 „Krakowskie wieże” („Piórkiem i węglem”). 14.30 „Suita polska” — program baletowy. 15.00 „Tele-Echo”. 15.40 „Piosenki, których się nie zapomina” — program kabaretu „Dymek z papierosa”. 16.25 „Spotkanie z pisarzem” — Jerzy Putrament. 17.00 II wydanie kroniki olimpijskiej. 19.00 „Kronika” — magazyn TV Kraków. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Studio UNO-wcześnione”. 21.15 III wydanie kroniki olimpijskiej. Uroczyste zakończenie Igrzysk.

**PONIEDZIAŁEK, 28 październik**

15.35 Program dnia. 15.40 i 22.25 Politechnika TV. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Zręczne ręce”. 17.10 „Kronika Olimpijska”. 17.30 TV Kurier Mazowiecki. 17.45 TV Magazyn Postępu Technicznego. 18.15 „Spacerkiem po kinach”. 18.45 „Do szuflady”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: Z. Stolarek — „Sygnet — pieśni o wierności” — dramat poetycki. 21.30 „Życiorys” — rep. filmowy z cyklu „Profile kultury”. 22.00 Dziennik.

**WTOREK, 29 październik**

9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski: Sofokles — „Król Edyp” („Dzieje dramatu”). 10.35 „Wierny mąż” — film fab. ang. 12.00 Dla szkól (kl. II i III) „Ziarnko do ziarnka”. 12.20 Przerwa. 12.30 i 15.05 Przysposobienie Rolnicze: „Pomoc przy porodzie krów i pielęgnacja noworodka”. 13.05 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.40 i 22.55 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Jak dawniej latano” („Klub pod Smokiem”). 17.35 „Nie tylko dla pań”. 18.00 Telewizyjny Kurier Warszawski. 18.15 „Faust i Małgorzata” z cyklu „Wielkie miłości”. 18.45 „Gawędy wilków morskich”. 19.00 „Spotkanie nad jeziorem” — rep. filmowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Refleksje”. 20.35 „Wierny mąż” — film fab. ang. 22.00 „Panorama Literacka”. 22.30 Dziennik.

**ŚRODA, 30 październik**

11.00 „Stary człowiek” — film („Dr Vojeck”). 11.55 Dla szkół (kl. VII) „Gaz życia — tlen”. 12.25 Przerwa. 15.10 „Matematyka w szkole”: „Rozwiązywanie zadań geometrycznych”. 15.40 i 23.00 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.25 „Telekram”. 17.35 „Za kierownicą”. 18.05 PKF. 18.15 Sprawozdanie sportowe. 19.05 „TV Kurier Białostocki”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kontakty”. 20.35 „Stary człowiek” — film („Dr Vojeck”). 21.20 „Światowid”. 21.50 Studio 63: T. Boy-Żeleński „Obrachunki boyowskie” cz. II. 22.35 Dziennik.

**CZWARTEK, 31 październik**

9.20 „Skok o świcie” — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski: „Ignacy Krasicki”. 11.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 18.00 „Joanna” — film Tele-Aru („Z kamerą po świecie”). 18.15 „Nad Odrą i Bałtykiem”. 18.45 „Sylwetki kompozytorów” — Witold Szalony. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Życiorys puszczy” — rep. 20.30 „Cafe Rose” — film TVP „Stawka większa niż życie” odc. IV. 21.40 „Appassionata Beethovena” — film radz. 21.50 „Ten trzeci” — rep. dok. 22.15 Dziennik.

**PIĄTEK, 1 listopad**

11.35 Program dnia. 11.40 Dziennik. 11.50 „Cafe Rose” — film TVP („Stawka większa niż życie”) odc. IV. 13.00 Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1925. 13.20 TV Kurier Mazowiecki. 13.35 Dla dzieci: „Wiersze Wam daję”. Poezje W. Broniewskiego, K. I. Gałczyńskiego, T. Kubiaka. 14.05 „Nieuchwytni mściciele” — film fab. radz. 15.20 „Droga do wolności” — film ang.. 16.10 „Widma” — Kantata S. Moniuszki oparta na fragmentach „Dziadów” A. Mickiewicza. 17.15 „Klub 6-ciu kontynentów”. 17.55 „Estrada Literacka”: „Drzewa moje ojczyste”. 18.25 „Oni nie byli bezimienni” — film TVP. 19.00 „Wieczorne rozmowy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pamięć tamtych dni” — film pol. 20.15 Teatr TV. W. Orłowski: „Siedem dni prezydenta”. 21.25 „Profile kultury”. 21.55 Dziennik.

**SOBOTA, 2 listopad**

9.20 „Śmierć czyha na starcie” — film fab. ang. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Przewód pokarmowy”. 11.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 TV Kurs Rolniczy: „Produkcja mięsa wołowego”. 16.15 Program Tygodnia. 16.40 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Pośpieszmy 13-01! droga wolna” — turniej młodzieżowy Techników kolejowych (Warszawa i Poznań). 18.00 I Ogólnopolski Festiwal Pieśni Zaangażowanych. 18.30 „Warszawa, ja i Ty”. 19.00 Program filmowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor”. 20.10 „Pegaz”. 20.55 „Piosenki z Divertimenta”. Reż. J. Przybora. 21.50 Dziennik. 22.20 Wiadomości Sportowe. 22.30 „Śmierć czyha na starcie” — film fab. ang.




**PIĄTEK, 25 październik**

7.25 Historia BSRR. 7.50 Uroczyste plenum KC Komsomołu (z Pałacu Zjazdów). 9.30 „50 lat Komsomołu” (z Wilna). 9.45 Na XIX Olimpiadzie. 12.55 Program dnia. 13.00 Uroczyste plenum KC Komsomołu (z Pałacu Zjazdów). 15.00 Na XIX Olimpiadzie. 16.00 Koncert. 18.00 „Sztafeta nowin”. 19.00 Na XIX Olimpiadzie.

**SOBOTA, 26 październik**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 „Jubileusz”. 8.30 „Sciany i witryny”. 9.00 „Drogą ojców — bohaterów”. 9.30 Film animowany dla dzieci. 10.00 „Obiektyw”. 11.00 „Zdrowie”. 11.30 Raport pionierów Białorusi. 11.45 Koncert państwowego chóru z Woroneża. 12.40 „Baćka Minaj”. Film dokumentalny. 14.00 TV barwna. 16.30 Almanach TV. 17.20 Na XIX Olimpiadzie. 17.45 Koncert poświęcony 50-leciu Komsomołu. 20.00 „Lotne dni”. Film fabularny. 21.20 Dziennik. 21.30 Na XIX Olimpiadzie. 22.30 Piłka nożna. Olimpiada. Mecz finałowy.

**NIEDZIELA, 27 październik**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik”. 8.00 Almanach literacki. 8.45 Raport pionierów Ukrainy. 9.00 „Siedmiu śmiałych”. Film fabularny. 10.30 Dla żołnierzy. 11.00 W eterze „Młodość”. 12.00 „Kiosk muzyczny”. 12.30 „Białoruś literacka”. 13.20 „Szkatułka muzyczna”. 13.40 TV barwna. 16.00 „Człowiek ziemi mojej”. 16.10 Śpiewa artystka ludowa BSRR Ł. Gałuszkina. 17.00 Na XIX Olimpiadzie. 18.00 Wystąpienie I sekretarza Mińskiego obkomu KPB. 18.30 „Europa: wydarzenia, kraje, problemy”. 19.15 Wieczór młodzieży twórczej Mińska. 20.40 „Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1925”. 21.15 Na XIX Olimpiadzie.

 

Лёс Беласточчыны, яе эканомікі і культуры, цесна залежыць ад ступені развіцця яе сельскай гаспадаркі. Меліярацыя ў басейнах рэк Бобры, Сідаркі, Супраслі, Нетупы, Сакалды, Нарвы, Нурчыка стварыла якасна новую сітуацыю ў мясцовай сельскай гаспадарцы. Гэта навіна ў паляпшэнні якасці сенажацяў, у радыкальным павелічэнні колькасці добрага сена, што дазваляе мець больш кароў, больш малака і мяса. Калі ў 1960 годзе, восем год таму назад, была праведзена меліярацыя звыш сямі тысяч гектараў дзікіх сенажацяў і загаспадаравана каля шасці тысяч гектараў тых сенажацяў, дык праз пяць год пасля, у 1965 годзе, зменіярвана ўдвая болей, а загаспадаравана ўтрая болей. Такі высокі тэмп меліярацыйных прац утрымоўваецца па сённяшні дзень.

Трэба сказаць, што ўсё яшчэ не дацэньваюць сваёй перспектывы ў жывёлагадоўлі ў такіх паветах, як Гайнаўскі, Сакольскі і Дуброўскі, дзе на сто гектараў зямельных угоддзяў прыпадае ўсяго каля дваццаці кароў. Спецыфікай свядомасці гаспадара ў тых паветах з'яўляецца ягоная традыцыйная ізаляванасць ад раёнаў з большай сельска-

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА ПЕРАД УСІМ

гаспадарчай культурай. Дрэнная гэта традыцыя. Трэба яе перамагаць, мясцовыя сельскагаспадарчыя гурткі ды іншыя арганізацыі павінны думаць аб арганізоўванні экскурсій у паветы, у якіх добра пастаўлена жывёлагадоўля, ёсць чаму павучыцца. Найлепшым агітатарам добрай справы з'яўляецца канкрэтны прыклад, узор.

У земляробчай культуры дабіліся мы болей выразных поспехаў. Упершыню ваяводства пакрыла ўласныя патрэбы на збожжа. Патрэбы, якія ўзрасталі і ўзрастаюць безупынна з года ў год. Ураджайнасць палёў перавысіла перадваенныя паказчыкі, між іншым, дзякуючы таму, што набылі масавае прымяненне мінеральныя ўгнаенні, аб якіх калісьці мала хто чуў і ведаў. Тэмпы развіцця безумоўна павялічваюцца, хаця ў некаторых паветах наогул яшчэ ўтрымалася трохпольная сістэма гаспадаркі. Цераспалосіца палёў моцна перашкаджае ў механізацыі гаспадарскіх работ, у прымяненні новых метадаў гаспадарання. Таму невыпадкова нарадзілася ініцыятыва правядзення камасацыі земляў грамадскім спосабам. Гэту ініцыятыву высока ацаніў Урад і Сейм, прымаючы адпаведную дзяржаўную пастанову. Бо з падобнымі праблемамі маюць дачыненне гаспадары і ў іншых рэгіёнах Польшчы, дзе гэтаксама адсталая сельская гаспадарка, як і ў нас.

Як бачым, у нашай сельскай гаспадарцы мела месца шэраг пераломных з'яў і фактаў, значэнне якіх цяжка пераацаніць. Доказам таго дадаткова можа паслужыць агульнавядомы хіба прыклад адносін гаспадара да сеялкі, гэтай падставовай сельскагаспадарчай машыны. Не так даўно сеялкі лічыліся непатрэбнай выдумкай бюракратаў. Зараз бадай не знайшоўся б такі гаспадар, які б не ведаў аб тым, што прымяненне пры сяўбе сеялкі дае не толькі ашчаднасці ў выкарыстанні зерня, але перш за ўсё прычыняецца да лепшага ўзыходу руні, а затым і да лепшых ураджаяў. Зрэшты, што ж гэта чаўплося ў пачатку шасцідзесятых гадоў са штучнымі ўгнаеннямі, да якіх амаль сілком нагаворвалі гаспадароў! Цяпер не трэба нагаворваць, бяруць самыя, нягледзячы нават на факт павышэння цэнаў. Аб чым гэта сведчыць? Аб патрэбе прыкладу, вопыту.

(ся)

# „ЭПОКА"

У беластоцкім клубе журналістаў «Клубе Сямі» адкрыта цікавая выстаўка XXX год Странніцтва Дэмакратычнага і X год выдавецтва «Эпока». Выдавецтва гэтае выдае газеты і часопісы агульным тыражом каля 300 тыс. экземпляраў, сярод іх «Дэмакратычны тыднёвік», «Кур'ер Польскі», «Ілюстраваны кур'ер польскі», «Гістарычна-палітычныя сшыткі СД» і «Бюлетэнь СД».

(вл)

МІЖ З'ЕЗДАМІ

# БЕЛАВЕЖСКІ ШКЛЯНЫ ДОМ



..яшчэ адзін шкляны дом... Белавежскі лясны тэхнікум.



**Дырэктар Ляснога тэхнікума ў Белавежы Тадэуш Макшыцкі расказвае пра міжнародныя спаборніцтвы вучняў лясных тэхнікумаў з усіх сацыялістычных краін. Першыя такія спаборніцтвы адбыліся ў мінулым годзе ў Чэхаславакіі, другія — у гэтым годзе ў ГДР. Чацвёртыя спаборніцтвы ў 1970 годзе адбудуцца ў Белавежы. Дырэктар трымае кубак за другое месца белавежскіх хлопцаў у Чэхаславакіі. У ГДР здабылі IV месца.**



**Сярод пальмаў у калідоры на першым паверсе.**

Крокі гучна адбіваюцца ў прасторных калідорах новага гмаху Ляснога тэхнікума ў Белавежы. Якраз ідзе лекцыя. Цішыня. Як бы заснулі пальмы, што стаяць у калідоры на першым паверсе. Хоць, не! Вось пара дзяўчат пільна заглядае ў кніжку. Яны — будучыя ляснічыя, а мо і надляснічыя. У Белавежскім тэхнікуме дзесяць дзяўчат на 638 вучняў, разам з завочнымі, якіх 338.

Мы з «Нівы» з'яўляемся першымі, што ў гэты хмурны кастрычніцкі дзень завіталі ў яшчэ пуставатыя сцены тэхнікума і абшырны кабінет дырэктара.

Калега пабег рабіць здымкі, а я запісваю пару фактаў з гісторыі будовы. 17 класаў-лабараторый мае новы тэхнікум, 17 кабінетаў пры класах, зал для завочных студэнтаў, святліцу, фізкультурную залу клуб-кавярню.

12 мільёнаў каштаваў будынак. З 22 мільёнаў, якія дало Міністэрства лясніцтва, рэшта — 10 мільёнаў — пойдзе на інтэрнат, унутранае абсталяванне будынка, загаспадараванне пляца, алеі вакол будынка, крыты басейн, якога будова пачнецца ўжо ў будучым годзе. «Тады нават у студзені запрашу вас паплаваць», — кажа дырэктар.

Гісторыя новага тэхнікума пачалася ў 1960 годзе. Дырэктар сказаў тады: «Калі лясны тэхнікум у Белавежы мае існаваць, трэба яго збудаваць». Канцэпцыя была настолькі бясспрэчная (Белавежа сярод 11 падобных тэхнікумаў у Польшчы адзіная мае найлепшы натуральны варштат для навучання працаўнікоў лесу, а з'яўляецца ім Белавежская пушча), што прынялася.

1963 год — зацвярджэнне праекту Цэнтральнай камісіяй ацэнкі праектаў у Варшаве.

1965 год — выкананне дакументацыі.

1966 год — пачынаецца вялікая будова.

1968 год — у роўна два гады ад пачатку будовы, вітае нас стройны шкляны белавежскі тэхнікум, які рассеўся на пляцы ў адзін гектар.

Чые заслугі заляглі ў фундаментах і сценах новага будынка? Дырэктар **Тадэуш Макшыцкі** цяпер усміхаецца, поўны аптымізму для далейшай будучыні. Былі аднак моманты менш прыемныя. Усё прайшло. Заслуга дырэктара ў ініцыятыве і паяўленні новага тэхнікума несумненная. Вытрымаў. З санаторыі выходзіў, каб папхнуць будову далей.

На «дырэктарскім столку» (акрэсленне самога дырэктара Макшыцкага) сядзіць ад 1959 года, але як чулліва ў непасрэднай размове ўспамінае гады, калі быў настаўнікам у тым жа тэхнікуме! Дырэктар зросся ўжо з Белавежай, здаецца назаўсёды.

У класах-лабараторыях спатыкаем моладзь. Хлопцы схіліліся над планамі і макетамі. Вывучаюць лес, як яго захаваць, як яго



**У лабараторыі «Ахова лесу» заняткі вядзе мгр інж. Канстанцін Охман.**

выкарыстоўваць, як любіць яго. Непасрэдныя сведкі — выкладчыкі называюць сваю моладзь патрыятычнай за яе велізарны ўклад працы ў будову школы. Колькі гадзін правялі вучні на будове! Капалі, насілі, вазілі, падавалі, ачышчалі. Работа, якой не вымераеш залатоўкамі, а без якой не абышлося.

Дырэктар з удзячнасцю называе прозвішчы інжынераў **Занкевіча і Хілецкага**, якія працавалі над праектам новай школы, называе **дырэктара Эйсманта** з беластоцкай «Пшэмыслуўкі», які сам асабіста цікавіўся і памагаў у будове, хваліцца адносінамі Міністэрства лясніцтва, якое выказала зразуменне і дало патрэбныя грошы.

Такім чынам, супольнымі сіламі многіх людзей, вырасла будоўля, якая ў Белавежскім дырэкцыйным парку прадстаўляе наш час, наш сённяшні дзень будаўніцтва.

**Вера Леўчук**

фота: **Раман Сянько**



 

# Ці далёка будучыня?

Нядаўна давялося мне пабываць на адкрыцці культурнага 1968/69 года ў Бельскім павеце.

Даклад, які зачытаў сакратар Прэзідыума ПРН **Анатоль Гінпгг,** шмат гаварыў аб дасягненнях культурна-асветнага руху ў Бельскім павеце ў мінулым годзе і накрэсліў заданні на гэты год. Паказана на лікі драмгурткоў, эстрадных і харавых калектываў, святліц, клубаў і іншых пляцовак. Выказана, што кнігазборам бібліятэк павета карыстаецца больш 24,5 тысяч насельніцтва, а гэта азначае, што кожны 4-ты жыхар павета з'яўляецца чытачом. Даклад адзначыў, што: «вялікім зацікаўленнем жыхароў нашага павета цешыліся сустрэчы, арганізаваныя аддзелам БГКТ пры дапамозе павятовай бібліятэкі з беларускімі пісьменнікамі». Ад 1966 г. у Бельскім павеце на пакупку кніжак выдаецца каля 120 тысяч зл. у год. Гэта толькі тэлеграфічныя скарачэнні адносна дасягненняў бельскай культуры.

Хацелася б таксама паінфармаваць аб выступленні намесніка аддзела культуры Прэзідыума ВРН у Беластоку **Тадэуша Бакуна.** Гаварыў ён не толькі аб цякучых справах, але аб справах будучыні бельскай культуры ў планах аддзела культуры ВРН. Заявіў між іншым, што ў адчуцці ваяводскіх улад паўночныя паветы лепш даінвеставаны ў галіне культуры чымсьці ўсходнія. Адсюль стаpанні, каб даінвеставаць гэтыя паветы, а перад усім Бельск — сталіцу Падляшша. Стварыць яго ў пэўнай меры цэнтрам культурнага жыцця ўсходніх паветаў. Гэты новы этап у разбудове матэрыяльнай базы праявіцца перад усім у перабудове закрытага ад некалькіх год павятовага Дома культуры, на што ваяводскія ўлады перdesigned ўжо ў гэтым годзе 200 тыс. зл. Па колькі павятовыя ўлады згадзіліся перадаць будынак пошты для культурных мэт, згодна з прапановамі аддзела культуры ВРН, Міністэрства культуры дало дазвол на адкрыццё ў бліжэйшым часе **музычнай школы ў Бельску.** Як здаецца, справа вышэй успамянутых пляцовак — гэта ўжо недалёкая будучыня.

Што гэта будзе абазначаць у культурным развіцці Бельшчыны? Калі дадамо, што ў гэтым годзе аддана ў карыстанне памяшканне павятовай бібліятэкі, дык гэтыя пляцоўкі пры скаардынаванай сваёй дзейнасці змогуць забяспечыць развіццё культурнага руху ў павеце. «Людзі тут вельмі расспяваныя, — гаварыў Т. Бакун, — а адсюль большая любоў да музыкі. А гэта дае нам падставу меркаваць, што вынікі працы музычнай школы будуць напэўна большыя, чым напр., у Ломжы, хоць і там мы вельмі задаволеныя з працы музычнай школы». Зрэшты, задумаўшыся над гэтым, можна складаць планы — мары будучыні музычнай Бельшчыны.

Гэта вельмі вялікія справы бельскай культуры. Ёсць аднак яшчэ і іншыя асноўныя справы, хоць іх называюць справамі меншага калібру. Маю на думцы грамадскія цэнтры культуры (ГОК). У Бельскім павеце іх непрапарцыянальная колькасць да ліку святліц. А справа вядомая, што гэта найбольш трывалыя культурныя цэнтры, маюць яны найвялікшыя фінансавыя падставы і могуць весці пастаянную працу, што ў культурнай дзейнасці не з'яўляецца лёгкай справай. Ды і наогул там, дзе няма ўмоў да арганізацыі ГОК-аў, трэба ісці на апрацоўку супольных планаў дзеяння, напр., клубу «Рух», бібліятэчнага пункта, гуртка ЗМВ, БГКТ, ЛьЗС і іншых зацікаўленых у культурна-асветнай дзейнасці.

У новым культурным годзе нельга забываць, што культурная дзейнасць — гэта таксама адпачынак. Адсюль трэба дбаць аб стварэнні спартыўных пляцовак, стадыёнаў, паркаў, купальных басейнаў. «Адносіны бельскіх улад, — гаварыў Т. Бакун, — да спраў культуры вельмі прыхільныя і адгэтуль трэба меркаваць, што нашыя планы здзейсняцца ў прадбачаным часе».

**А. Карпюк**

# Што такое ідэйнасць

**(Працяг са стар. 1)**

руску і па-украінску. Чытаць па-польску навучыўся значна пазней, як кажа, «сам ад сябе». Перажыў пакутны лёс многіх беларусаў, якія пасля рэвалюцыі вярталіся з Расіі ці Украіны ў свае дашчэнту знішчаныя вёскі. У знішчаных убогіх вёсках паяўляюцца рэвалюцыйныя ідэі. Аляксандр Садоўскі ўступае ў рады «Грамады». Пасля роспуску Грамады пачынаецца цяганне па арыштах ды паліцыйных даследваннях. Урэшце, трагічны верасень 1939 года. У першы дзень вайны санацыйная паліцыя арыштоўвае Садоўскага і іншых грамадоўцаў ды вывозіць іх у вядомы лагер у Картуз-Бярозе. Вызваляе іх адтуль Чырвоная Армія.

Адразу пасля вайны Аляксандр Садоўскі паехаў у Беласток, каб даведацца, як і дзе можна ўступіць у партыю. Там яго паінфармавалі. Але ўжо на другі дзень прыйшла ў яго хату банда з рэакцыйнага падполля і запатрабавала выяснення адносна яго кантактаў з партыяй. У такіх умовах уступленне ў рады партыі раўнялася прыгавору смерці.

Потым, вядома, часы змяніліся і ўступленне ў партыю сталася параўнальна простым і лёгкім. У Тапалянах у партыю ўступіла многа людзей, якіх цяжка было б назваць камуністамі. Гэта знеахвочвала Аляксандра Садоўскага да партыйнай дзейнасці ў сваёй вёсцы. У 1963 годзе ўступае аднак у рады партыйнай арганізацыі сваёй вёскі, уключаючыся ў яе аднаўленне. Зараз партыйная арганізацыя ў Тапалянах налічвае 6 членаў — людзей ідэйных і адданых справе.

Ідэйнасць і актыўнасць членаў партыі праяўляецца ў розных формах, між іншым у сумленным выконванні сваіх абавязкаў у адносінах да дзяржавы і добрых прагрэсіўных метадах гаспадаравання. Таварыш Аляксандр Садоўскі доўга расказвае аб працы сельскагаспадарчага гуртка ў Тапалянах. Пералічвае сельскагаспадарчыя машыны гуртка, расказвае аб дасягненнях.

— Людзі ў нас проста разленаваліся, — з задавальненнем сцвярджае Садоўскі, — ніхто не хоча працаваць уручную, усе чакаюць на машыны. Маем у вёсцы пяць трактараў з усімі патрэбнымі машынамі, і ўсе ў рабочы час маюць поўны рукі работы.

Аляксандр Садоўскі мае 3 сыноў. Усе пайшлі ў горад ды працуюць на розных адказных пасадах. Бацьку, як і многім іншым нашым бацькам, прыйшлося працаваць самому на гаспадарцы. Зразумела, кіраванне ўсёй гаспадаркай у такім узросце не належыць да прыемнасцей. Аляксандр Садоўскі далёкі аднак ад наракання на жыццё.

— Трэба ж глядзець глыбей на справы, — тлумачыць. — Ясна, што працаваць старым нялёгка, а маладых людзей у вёсцы вельмі мала. Але што было б, каб не было адыходу людзей з вёскі, каб патрывала дагэтуль даваенная цеснатa і перанасяленне вёскі. Людзі паўміралі б з голаду, ды рэзалі б адзін другога за кавалак зямлі.

Аляксандр Садоўскі не належыць да тых, што займаюцца пустым нараканнем. Робіць усё, каб жыццё і праца нават тых, старэйшых ужо, часта слабых здароўем, гаспадароў была штораз лягчэйшай і штораз больш плённай.

**Ул. Паўлючук**

# ШТО, ДЗЕ, КАЛІ?

■ Недалёка ад чыгуначнага прыпынку Клепачы ў Беластоцкім павеце пад коламі таварнага цягніка загінуў Станіслаў Мачыдлоўскі, якому было 33 гады. Пасля было ўстаноўлена, што быў ён моцна п'яны.

■ У Беластоку на скрыжаванні вуліц Скарупскай і Манапалёвай матацыкліст Андрэй Кшыштопік з вёскі Крушэва ў Беластоцкім павеце сутыкнуўся з грузавіком «Стар». У выніку гэтага быў адразу забіты 18-гадовы пасажыр матацыкліста, жыхар Беластока Язэп Дзеніс. А сам матацыкліст атрымаў паранeнні.

■ У Нарве на скрыжаванні вуліц Бельскай і 1 Мая Раман Грыка (18 год) з Цісаў, едучы матацыклам «ВСК», сутыкнуўся з аўтамашынай «Жук». Устаноўлена, што вінаваты быў матацыкліст. Адвезлі яго ў шпіталь.

■ Трактарыст Мікалай Аліфер (21 год) з вёскі Вулька ў Гайнаўскім павеце, працуючы на полі недалёка ад сваёй роднай вёскі, праз сваю неасцярожнасць, вывернуўся з трактарам у яму, з якой бралі жвір. У выніку гэтага пасажыр Мікалай Галёнка, які знаходзіўся на трактары, атрымаў паранeнні. Сцверджана, што рамонт трактара будзе каштаваць 4 тысячы злотых.

**(Асака)**

# ЛІКІ

Сёлета налічваецца 168 пачатковых школаў, у якіх навучаецца беларуская мова. Вучняў у гэтых школах 18.503 асобы.

У агульнаадукацыйных ліцэях з беларускай мовай як прадмет у Бельску і Гайнаўцы налічваецца 492 вучні. (ся)



**У лесе.**
Фота: **Ул. Паўлючук**

# РАСКАЗ САЛДАТА

**(Працяг са стар. 1)**

цябе цяпер і радзь сабе сам. Высадзілі мяне пад Падольскам, 100 кіламетраў ад Масквы. Было гэта ў канцы 1942 года. Фактычна, бой разразіўся страшэнны, і я, карыстаючыся гэтым, хацеў перайсці да сваіх. Тады мяне раніла, страціў прытомнасць. Калі ачнуўся, аказаўся я ў рускім ваенным шпіталі.

— Я салдат, — сказаў я.

Вылечыўся і пайшоў зноў на фронт. Біўся пад Кёнігсбергам, там атрымаў старшага лейтэнанта.

Пасля вайны пісаў да майго сябра Уладзіміра Ільяшука, але прызабыў назву вёскі і пісаў не Янова, а Ганова. Пісьмы з мноствам пячатак вярталіся. Падумаў, што мабыць вёска знішчана і людзі не жывуць.

Але, вось... Тут аднак скажу, што выязджаючы з Янова, я пакінуў Валодзю свой адрас і адрас майго бацькі. Ільяшук, не дачакаўшыся ад мяне ліступ і падумаўшы, што я не жыву, напісаў пару слоў да бацькі. Бацька даў мне пісьмо. Якая была мая радасць! Я адразу пабег на пошту і выслаў тэлеграму. Зараз потым напісаў ліст. Два мае лісты атрымаў Валодзя Ільяшук, але не дачакаўся нашай сустрэчы. Мяне прыняла цяпер яго сям'я: жонка Агата, зяць Сцяпан Леўчук, дочкі Оля і Маня, сястра Валодзі Марыя Трафімюк. Паездзіў, пахадзіў я па даўнейшых сцежках. Шукаў слядоў сяброў па службе. Над магілай Валодзі з яго сваякамі зрабілі мы супольную фатакартку. На памяць.

А я? Я гэтую зямлю і вёску Янава заву сваёй другой айчынай, тут мне выратавалі жыццё. А жонку Валодзі заву маёй другой мамай.

Расказ запісала
**Вера Леўчук**

<u>**Выхаванне дзяцей і моладзі**</u>

# КАГО ХОЧАМ ВЫХАВАЦЬ

Выхаванне дзяцей, фармаванне іх індывідуальнасці, а значыць, маральнай паставы, не можа і не павінна абмяжоўвацца толькі выражэннем адабрэння ці неадабрэння на іх учынкі. Неабходна, каб дзеці ведалі агульныя прынцыпы, якімі павінны кіравацца ў сваіх учынках, а апрача таго, каб разумелі, чаму іменна павінны трымацца гэтых прынцыпаў.

Можна, напрыклад, не дазваляць дзіцяці біць малодшую сястру ці таптаць траўнікі. Але невядома, ці гэтага хопіць, каб яно зразумела, што нельга нікога крыўдзіць ці знішчаць грамадскую маёмасць. Невядома, ці сама забарона хопіць, каб дзіця ўсведаміла сабе рацыі, для якіх павінна рабіць так, а не інакш.

Праца па фармаванню індывідуальнасці дзіцяці, па выхаванню чалавека другой паловы XX стагоддзя, чалавека эпохі сацыялізма павінна давесці да выпрацоўкі ў іх такіх рыс, як любоў і адвага, грамадская актыўнасць і чэснасць, калектывізм і любоў да працы і да людзей працы.

Любоў да свайго народа, любоў да працоўных, а аднaчасова пашана і салідарнасць да людзей, нягледзячы на іх нацыянальнасць, расу, — гэта асноўныя элементы індывідуальнасці чалавека-патрыёта, чалавека-інтэрнацыяналіста.

Але самое ўпаенне моладзі патрыятычных пачуццяў і выхаванне людзей з высакароднымі думкамі і палымянымі сэрцамі недастаткова. Сучасны чалавек — гэта чалавек актыўны, чалавек дзеяння.

Быць з людзьмі, удзельнічаць у падзеях, ад якіх залежыць лёс людзей, а грамадскія інтарэсы ставіць вышэй сваіх уласных — гэта другая, таксама важная і таксама фундаментальная рыса сучаснага чалавека.

Чэснасць і аб'ектыўнасць, цаненне чалавечнасці ў кожным чалавеку, стрыманне прынцыпу згоднасці слоў з дзеяннем — гэта аснова фармавання ўзаемнага даверу і зразумення гэта аснова сужыцця паміж людзьмі.

Чэснасць і грамадская актыўнасць неразрыўна звязаны з адвагай і жыццёвай энергіяй адзінкі.

Сучасны чалавек, чалавек эпохі сацыялізма, — гэта працоўны чалавек. Гэта ён будуе новыя фабрыкі і заводы, падводныя лодкі і міжпланетныя караблі. Гэта ён, сучасны чалавек, заваёўвае космас і адкрывае яго таямніцы. А для гэтага патрэбна мужнасць. Мужнасць, моцны характар і жыццёвая энергія — гэта чарговыя рысы чалавека эпохі сацыялізма.

«Праца стварыла чалавека». Гэта яна ляжыць у аснове нашых дасягненняў, з'яўляецца падставай развіцця краіны і паляпшэння дабрабыту яе грамадзян. Чалавек, калі жыве, харчуецца, а калі не працуе, значыць, карыстаецца чужой працай.

Гэты прынцып павінна памятаць кожная дзяўчынка і кожны хлопец. Абавязак кожнага чалавека, такім чынам, — удзельнічаць у працы свайго грамадства, працаваць над памнажэннем яго дасягненняў, будаваць яго будучыню.

Апошняя, але самая важная, фундаментальная рыса — усебаковыя і глыбокія веды, а ў сувязі з гэтым — навуковы погляд на свет, здольнасць разумець ход падзей у нашай краіне і на свеце і перспектывы іх развіцця.

**Мгр Мікалай Грыгорчук**

# ТРЫБУНА чытачоў

### ХУТАРЫ

На Сакольшчыне цяпер праходзіць камасацыя зямлі ў многіх грамадах. У вёсках Падсутні (грамада Сідра) і Навінцы (грамада Карыцін) была праведзена грамадская камасацыя зямлі. Жыхары вёсак утварылі камісію і пры дапамозе мярнічага самі раздзялілі зямлю. Такім чынам ліквідавалі цераспалосіцу і зараз зямельныя ўгоддзі маюць у двух кавалках. (сс)

### НАЙДАЎЖЭЙШЫ КАЛІДОР

Васьмікласная пачатковая школа ў Чыжах (Гайнаўскі павет) знаходзіцца ў вельмі старым і цесным будынку, які быў пабудаваны за часы якогасьці там цара. У гэтым будынку толькі ёсць два класы (два пакойчыкі). Наймаецца яшчэ 4 сялянскія хаты да навучання дзяцей, якіх тут налічваецца 230. Адлегласць вышэй успомненага школьнага будынка да найдалейшай хаты — школы мае 900 метраў. Прыняўся ў Чыжах жарт, што калідор настаўнікаў у Чыжах мае 900 метраў. А ўжо пара яго ліквідаваць. Гэтага дамагаюцца людзі. Грамадскім чынам звязлі яны 230 кубаметраў жвіру і 200 кубаметраў камення. Ёсць у вёсцы некалькі сот тысяч грамадскіх грошай па былай спулдзельні прадукцыйнай, якія таксама будуць перададзены на будову школы. Асветныя ўлады чыжоўцам абяцалі, што калі будзе дапамога грамадскім чынам, школа будзе ў іх вёсцы будавацца ў першую чаргу. І што ж? Чыжоўцы абяцанку выканалі. А калі асветныя ўлады выканаюць? (сс)

### АД IV З'ЕЗДА ДА СЁННЯ...

Ад IV з'езда ПАРП да сёння ў грамадзе Мілейчыцы ў Сямяціцкім павеце многа зроблена. Падаем ніжэй даныя з некаторых галін народнай гаспадаркі.

У 1964—1968 гады на вёсцы пабудавана 53 дамы, 191 гаспадарчы будынак, 111 сіласных ям. У будове знаходзіцца 42 дамы і 67 гаспадарчых будынкаў.

Вялікія дасягненні грамада Мілейчыцы мае ў дарожным будаўніцтве. Выдана на яго 3.891.666 зл. Дзякуючы рамонту і будове новых дарог, адкрыта аўтобусная лінія з Мілейчыц у вёску Рагачы, а таксама лінія з Мілейчыц у Сямяцічы праз вёску Гарнова.

У міжз'ездаўскі перыяд, апрача таго, у Мілейчыцах пабудавана: будынак спулдзельчага банка, спажывецкая крама, гандлёвая ўслуговая крама, склад на збожжа, склад мінеральных ўгнаенняў, злеўня малака. Быў праведзены генеральны рамонт мілейчыцкай кафлярні, у якой працуе зараз 43 чалавекі.

У Рагачах пабудавана крама, злеўня малака, а ў наступным годзе будзе аддана ў карыстанне прыгожая школа, кошт якой складае суму больш 3-х мільёнаў злотых.

За мінулыя 2 гады насельніцтва грамады Мілейчыцы ўлажыла працы грамадскім чынам на суму 1.945.417 злотых.

**Міхась Вішанка**
Мілейчыцы

### СПАТКАННЕ З ЯНАМ АНАЦІКАМ

Нядаўна (3 кастрычніка г.г.) адбылося спатканне плк. Яна Анаціка з моладдзю гайнаўскіх ліцэяў і старэйшымі жыхарамі горада. З моладдзю палкоўнік Анацік меў сустрэчу ў Доме культуры «Ляснік», а са старэйшымі жыхарамі у Доме Настаўніка.

Увечары прыйшлі на сустрэчу з Янам Анацікам прадстаўнікі павятовых партыйных улад і другіх палітычных арганізацый, а таксама члены БГКТ. Урачыстую вечарыну з нагоды 25-годдзя Войска Польскага адкрыў член Павятовага праўлення БГКТ у Гайнаўцы Кастусь Грыц. Пасля госць расказаў аб сваім удзеле на фронце, а таксама аб дзейнасці партызанскіх атрадаў, перад усім у Гайнаўскім і Бельскім паветах. Адказваў ён на многія хвалюючыя пытанні. Прысутным прозвішча палкоўніка вядомае са старонак «Нівы».

Пасля спаткання з моладдзю і са старэйшымі дэманстраваліся савецкія ваенныя кінафільмы.

Перад сустрэчамі прысутныя слухалі рускія мелодыі. Арганізатарам мерапрыемства быў гайнаўскі аддзел БГКТ.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова




**Дарагое Сэрцайка!**

Пазнаёмілася з хлопцам з суседняй вёскі. Мне ён вельмі спадабаўся, я яму таксама. Прыязджае ён часта да мяне. Гаварыў, што мяне вельмі кахае і просіць, каб я стала яго жонкай. Ён ужо год часу як вярнуўся з войска і можа жаніцца. Я маю няцэлых 17 год.

Парай, Сэрцайка, што мне рабіць, ці паведамляць аб гэтым бацькоў і выходзіць замуж, калі прыйдуць гады, ці адказаць М. За параду буду ўдзячна.

**Марыся з Гайнаўшчыны**

**Дарагая Марыся!** Калі табе хлапец падабаецца, дык нічога не стаіць на перашкодзе, каб з ім сябраваць. Аб жаніцьбе не варта гаварыць, бо табе яшчэ даўгавата чакаць да поўных 18 год. А чакаць можна, чаму не. Гады іменна пакажуць ці вашае каханне трывалае, сур'ёзнае, ці гэта толькі пералётнае спадабанне. У тваіх гадах аб сур'ёзным і трывалым каханні цяжка яшчэ гаварыць, але і зусім выключыць не можна. Але раю табе не выходзіць замуж вельмі рана. Сапраўды не варта.

**Сэрцайка**



**Фурманкі з бульбай перад гайнаўскім пунктам скупу.**
фота: **Янка Цялушэцкі**

### ЖЫЦЦЁ ЖЫЦЦЮ НЯРОЎНАЕ

Адзін пражыве свой век добра, у згодзе з жонкаю, у сямейным шчасці, без прыкрасці на старыя гады. Другі зноў ад першых дзён жаніцьбы лаецца штодзённа са сваёй жонкай і ўсё жыццё прамучыцца. Пагадуе бацька дзяцей, а яны на старасць ад яго адварочваюцца. Нядобра ўлажылася жыццё і ў Міхася Андрэюка з Цялушак у Бельскім павеце. Выдаваў ён тры дачкі замуж. Дзве выдаў у сваю вёску, а да наймалодшай Ліды прыняў прымака з Канюкоў — Івана Мікалаюка. Чалавек гэты мае многа сілы. Калі ў Цялушках будавалі краму, ён залажыўся на бутэльку віна, што ўтрымае на сабе 12 мяшкоў цэменту. Стаў ён ракам і на яго плечы ўзлажылі 11 мяшкоў (гэта значыць, 550 кілаграм). Усе крыкнулі: Мікалаюк выйграе. Ускінулі на яго плечы 12-ты мяшок цэменту. І выйграў бы Мікалаюк, але вось няшчасце, не вытрымалі рукі, паламаліся ў іх косці. Мікалаюк прайграў заклад.

Безумоўна, неразумнае гэта геройства. Хвастацца сваёю сілаю няма аніякай патрэбы. У гэтым выпадку сам сабе нарабіў непатрэбнага болю.

Але з ім бывае і горш. Ён часам паказвае сваю сілу свайму цесцю Міхасю Андрэюку, якому зараз 64 гады. Нядаўна пабіў ён старога. Пакрыўджаны і зняважаны стары расказваў аб сваім цяжкім жыцці. Прыходзіў ён шукаць абароны ад зяця-прымака, які прыйшоў у яго дом, на яго гаспадарку і замест удзячнасці, такая вось «падзяка». (мх)

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ КОНКУРСЫ

Вучні школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі і калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі кожны год бяруць удзел у конкурсах. На 140 доследных палетках у калектывах ПР і ў 60 СПР-ах вядзецца вырошчванне гародніны, чырвонай канюшыны, насеннай бульбы, цукровага бурака. Выкарыстоўваецца патрэбная колькасць мінеральных угнаенняў. каб даказаць гэтым, што інтэнсіўнейшае ўгнаенне азначае павышаны ўраджай.

А ў каго будуць найлепшыя дасягненні на доследных палетках будзе вядома пасля падсумавання вынікаў конкурсу. Конкурсныя тэмы з жывёлагадоўлі наступныя: калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі III-ай ступені гадуюць свінаматак, а ў 5-ці калектывах СПР арганізаваны конкурс хову цялят.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўка

### ПАВЯЛІЧВАЮЦЦА ПАРТЫЙНЫЯ РАДЫ

На Сакольшчыне ад IV з'езда партыі да палавіны верасня 1968 года было прынята больш 500 новых членаў. За гэты час створана 26 новых партыйных арганізацый, 5 кандыдацкіх груп і тры грамадскія камітэты.

На Гайнаўшчыне за тэты перыяд партыйныя білеты атрымала 774 чал.

Значна павялічылася колькасць членаў партыі ў Беластоцкім павеце. У міжз'ездаўскі перыяд прынята ў партыю 1700 чалавек. (мх)

брыгада — імя Чапаева. Узначальвае яе Матавасян. Атрымала яна заданне дзейнічаць у паласе Ваўкавыск—Свіслач — Заблудаў. Пазней, у лістападзе 1943 года, узнікла брыгада «Пралетарская», якую 21 снежня таго ж года пераіменавалі ў брыгаду імя Кастуся Каліноўскага. Камандзірам гэтай брыгады быў вызначаны капітан Мікалай Калістратавіч Вайцяхоўскі. Прыдзялілі яму раён Сакольскага, Аўгустоўскага і Граеўскага паветаў. У 1944 годзе атрады брыгады «Кастуся Каліноўскага», супрацоўнічаючы з польскімі партызанамі АК, групай «Мазур» дайшлі аж да Ломжынскага павета.

Першай з Ружанскіх лясоў вырушыла брыгада Янкоўскага. Паколькі яе раён дзеяння больш-менш пакрываўся з нашым, рушылі з ёю і мы. На дарозе наш камандзір падзяліў групу «Дальнія» на дзве часткі. Ён пасля з радыётэлеграфістам астаўся на ўсходнім баку Белавежскай пушчы ў раёне вёсак Куклічы-Саболькі, рэшта — Чаўрыкаў, Нячаеў, Новікаў і я — пайшла разам з брыгадай у пушчу.

У Белавежскай пушчы Янкоўскі меў намер наладзіць базу брыгады, мы планавалі адлучыцца і ісці далей самастойна, каб асесці ў Бельскім павеце і згодна з атрыманымі заданнямі, пачаць сваю дзейнасць. Сувязь з нашым камандзірам, капітанам Хмялеўцавым, мелі мы ўтрымліваць праз сувязных брыгады «У імя Радзімы», а таксама праз кантактную скрынку ў Ваўкавыску.

Разам з брыгадай ішла таксама польская група парашутыстаў інж. Мечыслава Леша. Група гэта складалася з пяці чалавек: Леша, Кароля Венцкоўскага, Касінскага, цяперашняй жонкі Венцкоўскага, тады радыётэлеграфісткі, і яшчэ аднаго таварыша (прозвішча не памятаю). Яны накіроўваліся ў Варшаву.

Брыгада ішла ноччу, днём адпачывала. Пад мястэчкам Новы Двор камандзір разведкі далажыў Янкоўскаму, што ў мястэчку нямецкі гарнізон і што трэба абысці мястэчка. Гэта азначала зрабіць пяць кіламетраў лішніх.

— Колькі іх? — пытае Янкоўскі.

— Каля пяцідзесяці.

— А нас трыста! І мы маем баяцца іх?

—Ну, не, таварыш камандзір...

— Што не? Гавары, дзе яны, ці далёка ад дарогі, якой будзем ісці?

— У мураванцы, з трыста метраў ад дарогі. Будынак абнесены калючым дротам, за дротам бункеры...

— Ну, бачыш! Яны баяцца нас больш, чым мы іх. Ідзем праз горад. Людзі змучаныя, не будзем лазіць па палях.

Рашэнне прынята. Брыгада рушыла праз горад. Затуркацелі вазы па выбоістым бруку. То тут, то там бліскалі і гаслі ў вокнах агеньчыкі. У вокнах было цёмна, але я быў ўпэўнены, што праз шыбы глядзяць на нас жыхары. Напэўна думаюць, што гэта за армія ідзе? Ці ж бы ўжо фронт? Вызваленне? Немцам прыходзіць капут?

Немцы сядзелі ціха.

**Ян Анацік**



**Асенні краявід.**
фота: **Янка Цялушэцкі**

# КІНО

### БЕЛАСТОК

**БГКТ**

«Дачка Стратыёна» — 27.X.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Dom na rozstajach'' (radz.), 29—30. „Nasz wspólny przyjaciel'' (radziecki), 31.X.—1.XI. „Dwaj w stepie'' (radz.), 2—3.

**Дубіны**

„Spotkanie na przeprawie'' (radz.), „Zwyczajny faszyzm'' (radz.), 30.X.—3.XI.

**Нараўка**

„Tajemnica tajgi'' (radz.), „Porzucona'' (radz.), 30.X.—3.XI.

**Нарва**

„A jednak cię kocham'' (radz.), „Czekajcie na listy'' (radz.), 30.X.—3.XI.

**Чыжы**

„Zwyczajny faszyzm'' (radz.), „W kręgu podejrzeń'' (radz.), 30.X.—3.XI.

**Дубічы Царкоўныя**

„Bariera'' (radz.), „Tajemnica tajgi'' (radz.), 30.X.—3.XI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Tajemnica zielonego boru'' (radz.), „A jednak cię kocham'' (radz.), 30.X.—3.XI.

**Орля**

„Zwyczajny faszyzm'' (radz.), „W kręgu podejrzeń'' (radz.), 30.X.—3.XI.

**Райск**

„Sąd'' (radz.), „Protestuję'' (radziecki), 30.X.—3.XI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Zakochała się dziewczyna'' (radziecki), „Spotkali się w pociągu'' (radz.), 30.X.—3.XI.

**Міхалова**

„Trzydzieści trzy'' (radziecki), „Gwiaździsty bilet'' (radz.), 30.X.—3.XI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Miłosne kłopoty'' (radz.), 29.—30.X. „Ambicja'' (radz.), 31.X.—1.XI. „Był sobie dziad i baba'' (radziecki), 2—3.XI.

**Шудзялава**

„Na frontach wojny domowej'' (radz.), „Samotna'' (radz.), 30.X.—3.XI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Miłosne kłopoty'' (radz.), „Ambicja'' (radz.), 30.X.—3.XI.

**Новы Двор**

„Mumu'' (radz.), „Nikt nie zna prawdy'' (radz.), 2—3.XI.

**Ліпск**

„Nieprzyjaciel u progu'' (radz.), „O moim przyjacielu'' (radz.), 2—3.XI.



**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6297

